Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

22 красавіка 1998 года
СЕРАДА
№ 31(111)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 1000 руб.
Цана ў розніцу — 1500 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

ІВАЦЭВІЧЫ

### На рынку ля вакзала — толькі садавіна і гародніна

Усе мясныя, малочныя, рыбныя і іншыя прадукты (у тым ліку вэнджаніна), якія прадаюцца на вагу, з мінулага тыдня можна набыць на калгасным рынку па вуліцы Клютка. Продаж іх на рынку ля вакзала забаронены. Такое рашэнне прынята мясцовымі органамі ўлады і санітарнай службай.

Мо такое рашэнне і на карысць пакупнікам. На рынку па вуліцы Клютка продаж вядзецца ў крытым памяшканні (пад купалам, як гавораць жыхары райцэнтра), тут устаноўлены халадзільнікі, ёсць працочная вада і іншыя бытавыя ўмовы для гандляроў і пакупнікоў.

### Тэлефонаў стала больш

Нарэшце ў Івацэвічах уведзена ў строй новая тэлефонная станцыя (SI-200, зроблена ў Славеніі). Яна разлічана на 960 нумароў. З канца сакавіка пачалося падключэнне першых абанентаў і на мінулым тыдні іх колькасць перавысіла 700.

Як паведамілі нам у раённым вузле электрычнай сувязі, усё роўна пакуль што задаволіць усіх жадаючых Івацэвічаў мець дома тэлефон немагчыма. Гэта справа бліжэйшага будучага.

### Падзяка за службу

Дваццаць гадоў аддаў службе ў органах унутраных спраў Уладзімір Мікалаевіч Шэлест. Апошнія дзесяць гадоў працаваў на розных пасадах у Івацэвіцкім медвыцвярэзніку. На днях сябры па рабоце праводзілі У. М. Шэлеста на заслужаны адпачынак, уручылі яму падарункі, грашовую прэмію і падзякавалі за шматгадовую службу ў міліцыі. Рэдакцыя нашай газеты таксама далучаецца да гэтых віншаванняў.

БАРАНОВИЧИ

### Вора отыскали в... камере

Ограбление гаражей в Барановичах стало настоящим бедствием. Воришек притягивает и то, что частные предприниматели и так называемые подпольные бизнесмены хранят довольно значительные запасы товаров в гаражах. Расчет прост: вскрыл гараж — хоть что-нибудь да унесешь, хоть колесо снимешь. Так и сделал некто С., проломивший стену в гараже и вынесший из него 110 бутылок водки. Умело организованный розыск вывел сотрудников ОБЭП Владимира Попко и Валерия Урютова на злоумышленника, который оказался в... камере милиции, где отбывал "сутки" за мелкое хулиганство.

У другого частного предпринимателя тоже изрядно поживились: распилив дужку замка, увели "Фольксваген-Пассат", циркулярку-строгалку, большое зеркало, электродрель, торговую палатку. Для "устрашения" владельцев гаражей можно приводить сколько хочешь фактов хищений. Способы проникновения просты, как штыковая лопата: спиленный замок, сорванные завесы, приподнятая легковесная крыша, сделан пролом в стене.

Конечно, гаражное строительство велось и ведется в городе без учета этого специфического фактора — где кто "выбил" участок, там и яму копает. Потому, даже при девяностолетнем стороже (есть такой), гаражи практически невозможно охватить взглядом, тем более обойти.

Одна надежда, что архитекторы "нарисуют" такие компактные блоки гаражей, к коим невозможно будет подступиться ворам. Пока же, уважаемые владельцы личного автотранспорта, утапливайте в воротах завесы, не жалейте денег на внутренние замки, вмонтируйте в открытые стены прочные металлические решетки да позаботьтесь о крыше. Увозят воры на сотни миллионов, раскошелитесь на сотни тысяч и избавитесь от любителей пожить на широкую ногу за ваш счет.



ФОТАЗНАЁМСТВА З СУЧАСНІКАМ

## ПАМОЧНІК ЛЯСНІЧАГА ІРЫНА МІШКОВІЧ



*Чалавек і прырода. Гэтае пытанне для былога майстра Барэцкага лясніцтва Ірыны Пятроўны Мішковіч зліліся ў адно цэлае яшчэ з дзяцінства, бо яна цвёрда рашыла, што будучая яе прафесія будзе звязана з лесам. Так і здарылася. Яна спярша закончыла лесатэхнічны тэхнікум, а потым лесатэхнічную акадэмію. Ірына Пятроўна ўжо каля 12 гадоў працуе ў лясной гаспадарцы, карыстаецца павагай і аўтарытэтам. А з красавіка гэтага года яна на новай пасадзе — памочнік ляснічага Барэцкага лясніцтва.*

*НА ЗДЫМКУ: І. П. Мішковіч.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

### У дзень нараджэння Ільіча

Вялікдзень у народзе лічаць гадавым святам. Адзначаюць зараз яго ўсе, нават тыя, хто раней публічна асуджаў яго, а потым тайком частаваўся свежанінай і самагонкай.

Цяпер гэта свята на дзяржаўным узроўні, і адзначаюць яго ўсе. Вядома, каб яно запомнілася, патрэбна сёе-тое прыгатаваць, хочацца самага смачнага. А з чаго? Перад Вялікаднём у гарадскіх магазінах Івацэвічаў — хоць шаром пакаці, як пажар прайшоўся. У многіх з іх не было ні селядца, ні фаршу, ні свежага агурка, не гаворачы ўжо аб нейкіх дэлікатэсах. Нават калі б яны былі, то не кожны гараджанін і вясковы жыхар іх купіць — касмічныя цэны на тыя прадукты. Таму і адзначалі свята па рознаму: хто сціпла, без раскошы, хоць з чаркай; а хто пышнае застолле наладзіў — з каляровай ікрой і "Савецкім шампанскім". Словам, жыццёвая і эканамічная стабілізацыя дайшла яшчэ не да ўсіх.

Вось напісалі мы гэтыя словы і тут жа падумалі: напэўна, усё заканамерна і сімвалічна. У гэтыя дні пэўная колькасць людзей адзначае дзень нараджэння У. Леніна, вялікага бязбожніка і чалавека, які шлях да шчасця вёў па трупах людзей, якія не хацелі думаць так, як ён.

ХХХ

22 апреля — день рождения вождя мирового пролетариата Владимира Ленина. Но... вспомнит ли кто-нибудь сегодня об этой дате? Или может только воспоминанием единиц все и ограничится?

Что-то неизбежное, как дождь или ветер, выражается в каменной фигуре Ильича. Мимо торопливо, не подымая даже глаз, проходят люди, рядом, по автострадe, проносятся автомобили.

Нужен ли нашим Ивацевичам этот памятник? Нужен! Как память о тех неисчислимых страданиях, жертвах, вызванных мановением руки человека, посчитавшего, что он знает правильную дорогу к счастью людей. Рука эта, поднятая на памятниках в указующем жесте, к слову, несколько лет была парализована и неподвижна.

Состояние памятника свидетельствует о полном равнодушии людей. Это лучшее подтверждение "ценности" этого уличного экспоната.

... А то ведь было время! Как пышно отмечала день рождения Ильича бывшая страна! Куда девались те сотни, тысячи людей в овальных, круглых, квадратных залах, созданные для аплодисментов, бурных аплодисментов и аплодисментов, переходящих в овации; куда девались те десятки, сотни тысяч людей, бодро шагающие мимо памятников вождю с красными бантами на груди?

Никуда не девались. Они выросли из тех штанишек, что сшила им коммунистическая система, с глаз упали розовые очки, ум прояснился. Люди отдали должное Иисусу Христу, Богу нашему, а не человеку, из которого Бога пытались слепить.

Воскресение Христово отмечаем мы, как и весь мир, а уж, простите, не день рождения Ильича.

...Как дождь, как ветер — обыденная неизбежность в каменной фигуре на площади возле дома Советов.

БЯРОЗА

### Ходзяць у даўжніках

Амаль 60% гаспадарак Бярозаўшчыны ходзяць у даўжніках з-за няўвыплатаў за спажыванне электраэнергіі. На 1 ліпеня мінулага года гэты доўг склаў амаль 13 мільярдаў рублёў. Між тым, дзяржава пайшла насустрач гаспадаркам, зрабіўшы адтэрміноўку з выплатамі да 2001 года з умовай, што ўжо цякучыя плацяжы будуць выплочвацца ў тэрмін.

Але і гэта мала дапамагае. Ад 1 ліпеня 1997 года прайшло 9 месяцаў, а больш чым у палавіны гаспадарак па-ранейшаму даўгі за спажыванне электраэнергіі.

У калгасах "Журавінка", "Прагрэс", "Земляроб" даўгі складаюць амаль на 200 мільёнаў рублёў.

— Тым, хто гэтыя даўгі ў тэрмін не выплочвае, яшчэ цяжэй выплаціць тады, калі іх нарастае кругленькая сума, — заявіў нашаму карэспандэнту В. А. Карпінчык, намеснік старшыні Бярозаўскага энергазбыту. — У нас ёсць гаспадаркі, якія, здаецца, нічым не вылучаюцца сярод іншых, а між тым выплаты праводзяць у тэрмін. Гэта такія гаспадаркі як "Ніва", "Чырвоны сцяг". У сённяшніх умовах, калі дзяржава ў тытанічных высілках імкнецца зліквідаваць даўгі Расіі, такія адносіны некаторых гаспадарак да выплат вельмі засмучаюць.

### Рэкеціры затрыманы

16 красавіка раніцай каля дзевяці гадзін на малым рынку, што ў г. Бяроза, здарылася наступнае. На "Аўдзі-100" сюды падкацілі трое спартыўнага складу малайцоў-рэкеціраў, схапілі мясцовага валютчыка, закінулі яго хуценька ў машыну і паехалі як мага хутчэй. Ужо на трасе Брэст—Масква сілай вытраслі з хлопца ўсе грошы — дзве тысячы долараў, выкінулі яго з машыны і самі паімчаліся ў бок Івацэвічаў.

"Валютчык" звярнуўся ў Бярозаўскую міліцыю за дапамогай. Ва ўсе бліжэйшыя аддзелы міліцыі пайшло тэрміновае паведамленне аб перахаваце рэкеціраў. Іх затрымалі ў Івацэвічах, на вуліцы Леніна. Рэкеціраў аказалася трое. У іх канфіскавана 2500 долараў, больш за 30 мільёнаў беларускіх рублёў, газавы пісталет.

Рабаўнікоў перадалі бярозаўскай міліцыі. Узбуджана крымінальная справа. Ідзе следства.

### Гінуць таксікаманы. Непаўналетнія

На жаль, гэтая бяда ўжо ходзіць па нашых невялікіх гарадах. У Белаазёрску ў ваннай уласнага дома знойдзены труп 16-гадовай Наталлі Б., якая загінула з-за перадазіроўкі клея. Не так даўно дзяўчына ў сваім сачыненні аб сэнсе жыцця пісала прыгожыя і правільныя словы. За сачыненне ёй паставілі пяцёрку. У жыцці ж — паводзіла інакш. Як высветлілася, яна з сяброўкай даўно займалася таксікаманіяй, толькі пра гэта ніхто не ведаў...

Не так даўно спрабавала развітацца з жыццём вучаніца дзевятага класа.

Пракуратура раёна спрабуе асэнсаваць гэтыя факты.

### Дапамогі просіць... заказнік

Яшчэ ў 1991 годзе пастановай Кабінета Міністраў РБ на тэрыторыі Бярозаўскага раёна быў створаны заказнік "Спораўскі" плошчай 7510 га. Меркавалася, што яго стварэнне будзе спрыяць захаванню эталонных участкаў балотна-лугавых і лясных угоддзяў з багатым раслінным і жывёльным светам, стабілізацыі гідралагічнага рэжыму тэрыторыі, захаванню ўстойлівых запасаў рыбы, відаў раслін, а таксама рацыянальнаму выкарыстанню зямлі.

На тэрыторыі заказніка забаронена правядзенне міліярацыйных і іншых работ, звязаных са змяненнем натуральнага ландшафта, рубка драўніны і кустарнікаў, паляванне ў месцах, дзе растуць рэдкія ці знікаючыя віды раслін.

Аднак у заказніку груба парушаюцца патрабаванні закона: назіраецца масавая рубка дрэў на дровы (за імі едуць жыхары як з Бярозаўскага, так і Івацэвіцкага раёнаў), узворваецца зямля пад пасадкі сельгаскультур. Пракуратурай раёна сумесна з інспекцыяй па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя выяўлены ў 1995—1998 г.г. 41 выпадак парушэння прыродаахоўнага заканадаўства, звязаных з парушэннямі рэжыму ўтрымання заказніка. 34 парушальнікі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці і аштрафаваны. Па 30 ісках, заяўленых пракуратурай, з парушальнікаў утрымана 8.116.000 рублёў у якасці кампенсацыі за ўрон, нанесены заказніку.

Аднак, як сведчыць практыка, гэтыя меры не даюць патрэбнай аддачы. З пачаткам вясны ў заказніку пачаліся сельгасработы. Спораўцы распрацоўваюць дзялкі пад пасадкі бульбы...

НАШ ДОМ — БЕЛАРУСЬ

# СУСТРЭЧЫ З ЛІТАРАТАРАМІ

## ў межах праекту "Наш Дом — Беларусь у XXI стагоддзі"

У панядзелак—сераду, 6—9 карсавіка, у Брэсце ўсё ж адбыліся 13 сустрэчаў чытачоў з вядомымі беларускімі літаратарамі. Па запрашэнні абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ў горад над Бугам прыехалі пісьменнік Уладзімір Арлоў, паэты Алесь Разанаў, Уладзімір Карызна, Артур Вольскі і Міхась Скобла, а таксама перакладчыкі Лявон Баршчэўскі і Васіль Сёмуха. У сакавіку не далі дазволу на правядзенне сустрэчаў з-за "эпідэміі грыпу", цяпер жа вымушаныя былі задаволіць настойлівасць ТБМ-цаў. Жаданне ж уладаў спачатку не дазволіць, а потым замоўчваць гэтыя сустрэчы і абмежаваць іх колькасць і колькасць прысутных на іх, толькі спрыялі пэўнаму ажыятажу вакол гэтых сустрэчаў.

Цікавасць студэнтаў, выкладчыкаў брэсцкіх ВНУ і навучэнцаў сярэдніх школаў была надзвычай высокай. Так, для сустрэчы ў політэхнічным інстытуце спачатку была выдзелена невялікая аўдыторыя, але прыйшла такая вялікая колькасць жадаючых, што прыйшлося шукаць ключы ад актавай залы на 500 месцаў, якая была запоўненая цалкам, і студэнты сядзелі нават на падаконніках. (Гэта нагадвала, як у 60-х гадах у Маскве ў політэхнічным інстытуце адбываліся проста грандыёзныя вечары паэзіі, калі выступалі маладыя Еўтушэнка, Вазнясенскі, Акуджава. Але на той час у Маскве была гэтак званая "адліга", а на Беларусі сёння досыць адчувальныя замаразкі).

Дарэчы госці, вымушаныя былі працаваць у шчыльным кантакце з гарадскімі ўладамі — намеснікам мэра Аляксандрам Працэвічам і супрацоўніцай гарвыканкама Марыяй Забродзінай, якія імкнуліся паставіць пэўныя межы, за якія на сустрэчах нельга было выходзіць. Спрабавалі даваць персанальны інструктаж, пра што можна гаварыць і пра што не, і ні ў якім разе не крануцца палітычных тэмаў. Іх удзел у сустрэчах прынёс нямала вясёлых хвілінаў. Госці ж адразу папярэджвалі, што будуць адказваць на ўсе пытанні, таму размова тычылася не толькі чыста літаратуры. Калі на сустрэчы ў СШ № 30, дырэктарам якой раней быў сп. А. Працэвіч, размова расцягнулася крыху больш за вызначаныя 45 хвілінаў, ён ускочыў і крычаў, што на аўтографы дае толькі 30 секундаў, падбег да гасцей і патрабаваў, каб яны не пісалі дзецям пажаданні на кнігах ("Жыве Беларусь", "Наш Дом — Беларусь", "Пажаданне кахання і незалежнасці ў незалежнай Беларусі" і т. п.), а ставілі толькі роспісы, хор галасоў яму адказаў: "Вы больш у нас не дырэктар". Падчас сустрэчы ў СШ № 9 сп. М. Забродзіна пачала патрабаваць ад гасцей спыніць палітычную агітацыю сярод вучняў. Самі дзеці супакоілі дзяржаўную даму, заявіўшы, што прыйшлі паслухаць не яе, а пісьменнікаў.

Калі перад ад'ездам сп. Працэвіч спрабаваў падвесці вынікі ўсіх сустрэчаў, зноў гаварылася, што "літаратурныя сустрэчы пераўтварыліся ў размовы на палітычныя тэмы"; ішлі пагрозы, што ўлады маглі прыцягнуць да адказнасці гасцей за распаўсюджанне газетаў "Наша слова" і "Беларуская маладзёжная"; папрокі за выкарыстанне беларускай нацыянальнай сімволікі (дзеці налятали і раскуплівалі сцяжкі, значкі). Адзін з берасцейскіх педагогаў атрымаў вымову за тое, што без дазволу сп. Працэвіча прывёў на сустрэчу з пісьменнікамі сваіх вучняў — трэба было абавязкова гэта ўзгадніць у мэрыі. У адказ госці з жартам выступілі з прапановай у духу часу перайменаваць урочышча Пагоня, якое сапраўды існуе на Берасцейшчыне ў Івацэвіцкім раёне і пазначана на геаграфічных мапах, у якое-небудзь "Краснознаменное". Усё ж такі да гонару Берасцейскіх гарадскіх уладаў трэба адзначыць, што ні адна сустрэча не была адмененая (як скажам 2 месяцы таму на Гарадзеншчыне), а паводзіны прызначаных адказнымі за сустрэчу ад уладаў можна зразумець.

Проста фантастычная літаратурная вечарына адбылася ўжо па дарозе з Брэста на Мінск у Белаазёрску, у гарадскім Доме культуры, куды сыйшоўся, такое было ўражанне, амаль увесь горад. Таксама сядзелі на прыступках. Вечарына доўжылася амаль 4 гадзіны. І толькі настойлівыя просьбы вядучай вечарыны вядомай паэткі і перакладчыцы Ніны Мацяш, што "госці стаміліся, прагаладаліся", што ім яшчэ вялікая дарога на Мінск, прымусілі гэты паток запісак, які ішоў на сцэну, спыніць...

*С. РУСЕЦКІ.*

АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

# ВАЛАКІТА НА ВЫСОКІМ УЗРОЎНІ

*Рэдакцыя «Газеты для вас»? Летась вы паведамілі нам, чытачам, і ў першую чаргу жыхарам Івацэвічаў, што на заходняй ускраіне райцэнтра, паблізу вёскі Міхнавічы ля дарогі на Стайкі будзе пабудавана кантэйнерная запраўчная. Для вадзіцеляў-аматараў гэта было б вельмі зручна. Але мінула нямала часу, а абяцанай запраўкі няма. Хацелася б даведацца, што здарылася, чаму ж тая АЗС не паявілася ля Івацэвічаў?*

*К. ТКАЧУК,*
*жыхар г. Івацэвічы.*

Каб адказаць на пытанне нашага чытача, рэдакцыя звярнулася за тлумачэннем да зацікаўленых службовых асобаў. Першае слова начальніку аўтазаправачнай станцыі на аўтатрасе Брэст—Масква М. С. Пераходзьку.

— Сапраўды, — сказаў Міхаіл Сцяпанавіч, — такая кантэйнерная заправачная станцыя павінна была паявіцца ля Івацэвічаў яшчэ летась па рашэнні ўрада нашай рэспублікі. Зроблены праект, праведзена патрэбная для гэтай мэты экспертыза, атрымана згода ўсіх зацікаўленых раённых службаў. Вырашана пытанне з адводам участка. Дарэчы, не хапала зямлі. Гэта пытанне ўзгаднілі з калгасам «Савецкая Беларусь». Засталася фармальная справа – правесці гэта праз рашэнне райвыканкама. ПМК-2, з якім заключаны дагавор на будаўніцтва, прыступіў да работы – пачаў выраўноўваць пляцоўку.

Але непрадказальныя падзеі паўплывалі на далейшы ход работ. Раптоўна захварэў старшыня райвыканкама і злёг у бальніцу і ў той жа час намеснік старшыні райвыканкама А. П. Ляшкоў прыпыніў т[illegible] будаўніцтва.

Наша начальства, а яно знаходзіцца ў Баранавічах (гэта Баранавіцкае прадпрыемства па забеспячэнні нафтапрадуктамі) накіравала свае пісьмы ў Белнафтахімканцэрн, у аблвыканкам і райвыканкам, у якім выказвалася непаразуменне ў сувязі з раптоўным і неабгрунтаваным спыненнем будаўніцтва АЗС.

Ужо з мая мінулага года ў нас закуплены і дастаўлены кантэйнеры для гэтай мэты. Яны разлічаны на 500 заправак у суткі. А чыноўнікі з райвыканкама стварылі валакіту з будаўніцтвам аўтазаправачнай станцыі. Мне не зразумела, чаму тое, што выгадна людзям і будзе даваць немалы прыбытак, фактычна зрываецца.

Наша Баранавіцкае прадпрыемства выдзеліла на будаўніцтва АЗС немалую суму грошай, якія маглі б скарыстаць будаўнікі. Як будзе далей вырашацца пытанне з будаўніцтвам запраўкі, мы павінны былі даведацца пасля нарады ў аблвыканкаме. Такая нарада адбылася. Даручана галоўнаму архітэктару вобласці разабрацца ва ўсім...

Галоўны інжынер ПМК-2 М. М. Краўчэня, га[illegible]рачы аб будаўніцтве новай кантэйнернай запраў[illegible], адзначыў, што сапраўды дагавор на ўзвядзенне АЗС заключаны, і яны ў любы час гатовы прыступіць да работы, патрэбен толькі дазвол раённых уладаў.

— З рэдакцыяй «Газеты для вас» па тэлефоне я гаварыць не буду, — так адказаў на наш тэлефонны званок намеснік старшыні райвыканкама А. П. Ляшкоў. Нават пытанне не выслухаў, не кажучы пра якія-небудзь каментарыі наконт будаўніцтва новай АЗС. Словам, дэмакратыя па-івацэвіцку.

Якая ж усё ж прычына спынення будаўніцтва новай АЗС, на падрыхтоўчыя работы да якога былі затрачаны дастаткова вялікія сродкі?

Аб гэтых прычынах нам сказаў той жа М. С. Пераходзька:

— У Івацэвічах ідзе рэканструкцыя старой заправачнай, якая раней была закрыта і не выкарыстоўвалася. Плануецца, што гэта будзе камерцыйная АЗС. А новая запраўка, якую завалакіцілі мясцовыя ўлады, павінна быць дзяржаўнай, і цэны тут ніжэйшыя, чым у камерцыйнай. Вось вам і канкурэнцыя. Калі амаль побач дзве АЗС, то аўтамабілісты паедуць у першую чаргу туды, дзе танней. Відаць, толькі па гэтай прычыне у райвыканкаме мне сказалі: навошта нам у Івацэвічах дзве запраўкі. Сапраўды, зацікаўленая пазіцыя мясцовых уладаў не на карысць тых жа аўтамабілістаў.

Таму міжвольна ўзнікае пытанне: навошта заварвалі гэту кашу яшчэ два гады назад – дабіваліся, трацілі сродкі. Няўжо мы такія багатыя?

XXX

Вось такія меркаванні зацікаўленых службовых асобаў наконт будаўніцтва кантэйнернай аўтазапраўкі ля Івацэвічаў. Думаецца, што нашы чытачы атрымалі патрэбную інфармацыю.

*С. РЫГОРАЎ.*

ВАША ПІСЬМО

# ДАЙ БОГ ВАМ ЗДАРОЎЯ

***Добры дзень, дарагая рэдакцыя "Газеты для вас"!***

***Калі можна, вельмі прашу, надрукуйце маё пісьмо ў вашай газеце.***

Мы, цяжка хворыя, часта маўчым пасля таго, як дактарам удалося ў цяжкай барацьбе са смерцю захаваць наша жыццё. Не думайце, калі мы маўчым, то не хочам доктару ці сястрычкі сказаць таго, што яны заслугоўваюць. Нам вельмі цяжка, што мы не ўмеем таго сказаць.

У канцы сакавіка гэтага года, таксама як і ў чэрвені два гады таму, мяне ў вельмі цяжкім стане завезлі ў Івацэвіцкую бальніцу. У тэрапеўтычным аддзяленні не было ніводнага свабоднага месца. Мяне, як і два гады таму, бярэ ў сваё аддзяленне (інфекцыйнае) Тамара Аляксееўна Рыжко.

Тамара Аляксееўна разам з Мікалаем Іванавічам Зубачам зрабілі, здаецца, нават немагчымае, каб я паднялася.

Тады, два гады назад, як і зараз, Тамара Аляксееўна не толькі старалася даць мне патрэбныя лекі, зрабіць дзеля майго здароўя ўсё неабходнае. Яна, здаецца, мяне адагравала сваім цяплом і чалавечнасцю. Тое ж самае паўтарылася і ў гэтым годзе.

Дарагія, добрыя нашы дактары Мікалай Іванавіч Зубач, Тамара Аляксееўна Рыжко, Буталіна Караліна Міраслаўаўна (Караліне Міраславаўне мяне перадалі, калі я адчула сябе лепш), многія іншыя дактары, медсёстры і нянечкі! Мы шчаслівыя, што вы ў нас такія ёсць. Мы толькі і можам, што прасіць у Бога здароўя і дабрабыту для вас і для вашых блізкіх.

А вы, калі ласка, заставайцеся такімі заўсёды.

***Г. КОТ,***
***хворая з пратэзіраваным мітральным клапанам, в. Сярадава.***

# И ГРУСТНО, И ХОЧЕТСЯ ПЛАКАТЬ

Читала публикации о забастовке учеников СШ № 2. Верила, что все уладится. И, действительно, уладилось. Хочу сказать о том, что поступок учеников 9 "а" и 10 "а" классов такой благородный, такой трогательный, что достоин самой большой благодарности, самого высокого уважения. Они (ученики) вели себя в такой сложной ситуации вежливо, разумно, корректно. Спасибо и тем родителям, которые воспитали отзывчивыми, сердечными, принципиальными своих сыновей и дочерей. Они отстояли свою учительницу Л. Л. Валинскую.

А что же педколлектив СШ № 2? Почему он не защитил свою коллегу? А вот ученики защищали, как могли. И защитили свою учительницу.

*Л. ТРЕТЬЯК,*
*г. Ивацевичи.*

# УРАЧЫ — НА КАНФЕРЭНЦЫІ, ХВОРЫЯ — ЧАКАЮЦЬ...

Сабраўся на прыём да тэрапеўта, пазваніў у рэгістратуру паліклінікі, запытаўся, калі доктар сёння прымаць будзе? Адказалі: з 8 гадзін раніцы. Ну, думаю, пайду раней, каб першым быць, доўга у чарзе не стаяць.

Прыйшоў у бальніцу, калі яшчэ 8 гадзін не было. Але людзі каля кабінета ўжо чакалі. Стаў і я. І... стаяў, як і астатнія хворыя, да паловы дзесятай гадзіны. Урача да гэтага часу наогул не было. Як растлумачыла медсястра, на трэцім паверсе паліклінікі праводзіцца ўрачэбная канферэнцыя, таму ўсе дактары там.

Канферэнцыі, напэўна, трэба праводзіць. Але ці трэба хворых прымушаць чакаць? Мо лепш расклад работы паліклінікі змяніць, каб хворыя бераглі не толькі свае сілы, але і час?

*В. ВАРАНЕЦ,*
*жыхар г. Івацэвічы.*

НАША БОЛЬ

# ПОСЛЕДСТВИЯ ЧЕРНОБЫЛЬСКОЙ КАТАСТРОФЫ МОЖНО УСТРАНИТЬ, НО...

На очередной международной конференции стран-доноров в апреле 1998 года Беларусь вновь представит проекты, связанные с преодолением последствий Чернобыльской катастрофы. А в мае прошлого года республику посетила миссия экспертов ООН во главе с господином Кальтенеккером. Специалисты ЮНЕСКО, ЮНИДО, МАГАТЭ, ФАО и департамента по гуманитарным вопросам ООН в Женеве провели экспертизу представленных им белорусской стороной проектных предложений. Шестнадцать наиболее приоритетных из них общей стоимостью 25 миллионов долларов были включены в Межучрежденческую программу ООН международной помощи районам, пострадавшим от Чернобыльской катастрофы.

Отдел международных связей МЧС совместно с Агентством экономического развития Гомельской области, созданным с помощью ООН и программмы TACIS, при поддержке облисполкома разработал, к примеру, проект с рабочим названием «Шароле» по разведению крупного рогатого скота мясной породы в условиях загрязненных территорий. Уже налажены контакты с бельгийскими и французскими фирмами, где выращивается скот этой породы; определено хозяйство на Гомельщине, которое займется его разведением; разработаны рацион кормов для производства чистой продукции и методика подготовки персонала для работы в новых условиях.

С помощью экспертов ООН в республике подготовлен большой региональный проект по лесу. Довольно дорогостоящий, он предусматривает не только мониторинг лесов, подвергшихся радиационному загрязнению, но и их промышленное использование; а также мероприятия по охране лесов от пожаров на отчужденных территориях. Эта проблема актуальна не только для Беларуси, поскольку лесные пожары вызывают перенос радионуклидов на большие расстояния.

Вернемся в 1986 год. Во многом «благодаря» растерянности и некомпетентности властей авария на ЧАЭС переросла в катастрофу для белорусского народа. Несколько дней после аварии о ней сознательно молчали. И только тогда, когда радиация пошла по миру и трагедию стало невозможно скрыть, о ней заговорили в стране. Вместо оказания срочной медицинской помощи облученному населению власти устроили пышные первомайские демонстрации, в которых, как и прежде, ничего не подозревающие люди скандировали здравицы руководству. Наконец, по команде «сверху» началось «планомерное» переселение из пораженных радиацией деревень. Причем, зачастую не учитывалось особое отношение полешуков ко всему «своему», родному, традиционному, что идет от предков. При выселении в чистые районы сельскую общину часто дробили, порой до одного человека, разрывая те сотни и тысячи невидимых ниточек-связей, на которых веками держалась деревня. Человек при этом становился «приблудой», как сами себя называли одинокие, оторванные от своего привычного мира, крестьяне. Чернобыль, как ничто другое, высветил антигуманный характер общественной системы, ее бездушие, которое ударило по человеку сильнее, чем авария.

С того времени прошло 12 лет. Изменилось ли отношение к человеку и его судьбе в нашем обществе? Обратимся к одному из проектов, реализуемых в республике сегодня. В феврале в Министерстве по чрезвычайным ситуациям Беларуси состоялся международный семинар, на котором были представлены первые результаты выполнения проекта «ЭТОС» по социально-психологической реабилитации населения, пострадавшего от последствий Чернобыльской катастрофы. В работе семинара приняли участие сотрудники МЧС, а также министерств здравоохранения, образования, сельского хозяйства и продовольствия, лесного хозяйства, ученые республики и представители пострадавших областей. Семинар оставил двойственное впечатление. С одной стороны, безусловен успех проекта, направленного на сотрудничество с конкретным человеком. С другой, — явное замалчивание его первых результатов. Как будто бы они не важны для страны, как будто Беларусь уже решила все постчернобыльские проблемы. А ведь, по заявлению руководства МЧС, ликвидация последствий Чернобыля оценивается сегодня в 32 годовых бюджета республики.

С июля 1996 года французские агрономы, радиологи и социологи каждые два месяца выезжают в Ольманы — самую загрязненную деревню Столинского района — для выполнения конкретных подпроектов: «Чистое молоко для детей», «Чистое мясо», «Молодые мамы», «Древесина», «Радиационная безопасность», «Школа» и других, финансируемых Комиссией Европейского Союза. Научный координатор проекта Жиль Дюбрей считает «ЭТОС» уникальным проектом, так как комплексная работа ученых направлена на помощь конкретному человеку и невозможна без добровольного сотрудничества с ним. В результате этой работы, как считает французский ученый, улучшилась жизнь деревенского населения, так как знания и преобретенный опыт позволяют жителям Ольман уверенно управлять ситуацией в условиях радиационного риска. Рассмотрим, например, подпроект «Молодые мамы». Женщины Ольман, озабоченные здоровьем своих детей, хотели как-то изменить ситуацию. Однако у них не хватило знаний о том, как детский организм накапливает радионуклиды. С помощью французских специалистов дозиметрия стала доступной для мам и они начали самостоятельно проводить замеры внешнего (в деревне) и внутреннего (у детей) уровней радиационного загрязнения. Посредством шкалы управления уровнями загрязнения молодые мамы регулируют досуг детей, рацион и режим их питания. В настоящее время женщины совместно с врачами составляют индивидуальные паспорта медицинского радиологического наблюдения, которые позволят обеспечить постоянный медицинский контроль за состоянием здоровья детей. В Ольманах знают о радиации многое: изучена география пастбищ по каждому молочному стаду, известна степень загрязнения каждого стога сена, отработана методика использования грязных и чистых кормов, благодаря чему селяне стали управлять их распределением и контролировать загрязнение молока. Теперь от них самих зависит чистота молока, а значит и здоровье детей. И сегодня можно сказать, что деревня Ольманы спасена — снят вопрос о переселении ее жителей. По словам социолога Жюли Ригби (Великобритания), которая ведет проект «Видео» среди деревенской молодежи, у нее подопечных «идиллия или тревога в отношении радиации постепенно сменились реальным пониманием ситуации». Вместо апатии и растерянности у молодых людей со временем появились интерес к жизни и уверенность в себе. Об этом свидетельствует изменение мотивов при выборе сюжетов для видеосъемок: от «почему уехать в город или остаться в деревне» до «как жить, как лучше жить в Ольманах».

По мнению представителя Комиссии Европейского Союза Жака Синава, положительный результат проекта «ЭТОС» демонстрирует необходимость сотрудничества в обществе на всех уровнях: «Все, что делалось здесь до сих пор, не дало результата. Я не хотел бы никого критиковать или превозносить французов. Но то, что сделали они — это демонстрация сотрудничества сверху донизу, которое может помочь детям Беларуси». Необходимо систематизировать накопленный опыт, после чего применять его в более широком масштабе. По его словам, Комиссия Европейского Союза постарается и дальше помогать в реализации этого проекта.

Вместе с тем, в осуществлении гуманитарных проектов, направленных на реабилитацию населения и территорий, пострадавших от Чернобыля, как и прежде, имеются значительные проблемы. И главная из них — острые противоречия между идеологией проектов и социально-политической обстановкой в обществе. Реализация проектов предполагает достаточную открытость и сваботу гражданского общества, ибо на первый план выходят личная инициатива и ответственность многих людей, которые сотрудничают в интересах будущего белорусского народа. Государство же всеми своими институтами пытается ограничить поле человеческой свободы и сотрудничества, без чего невозможно претворить в жизнь новую стратегию по преодолению последствий Чернобыльской катастрофы.

*М. ГОРЕВОЙ, журналист, БелаПАН.*

З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА



*І разам з ёй заўжды вясна.*
*Фота А. ГАНЧУКА.*

# Для дома, для семьи, для души...

НАРОДНЫЙ КАЛЕНДАРЬ

## Какое лето будет?

Весной береза раньше ольхи лист распустит — лето будет сухое, ольха опередит березу — мокрое. Весна слетает с земли. Соловей начинает петь, когда может напиться росы с березового листа. Прилетел кулик из заморья, вывел весну из затворья.

ХОТИТЕ — ВЕРЬТЕ...

Наши предки считали, что нечистая сила селится в болотах, могилах, на перекрестках, в воде, в ветвях груши, ореха, вербы, в подвалах, колодцах. Все знают, что леший живет в лесу, он его хозяин, хозяин зверей и птиц. Он пасет волков. Считали, если встретишь в лесу человека, у которого куртка запахнута на левую сторону, а левый ботинок обут на правую ногу, — что-то в нем нечисто.

В книгах, написанных еще в средневековье, утверждается, что индрик-зверь похож на мифологического единорога. Живет он под землей и чувствует себя совсем неплохо. Если у вашего дома в колодце вода чистая и прозрачная, не исключено, что по-хорошему подсобил индрик-зверь.

Анчутка — это маленький, но весьма проказливый бесенок. Его отличительная черта — невысокий рост, умение летать и повышенная чумазость.

Черт (он же косматка, немытик, нечистик и прочее) в былые времена немало досаждал нашим предкам. Известно, что он вылупливается из петушиного яйца, которое лихие люди вынашивают под левой подмышкой.

ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## Садоводу

В центре ягодного кустарника воткните трубу, а на нее накиньте проволочный или деревянный круг, который удерживается расчалкой, проходящей через прорезь в торце трубы. И куст станет удобно поливать, удобрять, а ветви не будут ложиться летом на землю и зимой ломаться от снега.

Розы для букета во время 1-го их цветения срезают как можно короче — с 2—3 листьями. Это способствует быстрому образованию новых бутонов. Так же срезают и отцветшие побеги. Летняя обрезка применяется при выращивании всех роз, за исключением плетистых.

ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО...

## Смех

Смех удлиняет жизнь, прибавляет здоровья. Об этом было известно давно. Причину же этого решили выяснить лишь лет десять с небольшим назад. Недавно ученые госуниверситета в Нью-Йорке, занимавшиеся этой проблемой, опубликовали данные о том, что смех способствует выделению сильных гормонов, которые "заряжают" имунную систему человека. Группа гормонов, называемых цитокинами, как выяснилось, содействует активности лейкоцитов, необходимых, чтобы "отражать" вирусные и бактериальные инфекции, разрушать потенциальные раковые клетки. Это лишь "одно из веществ, содержание которого повышается благодаря смеху", — пишет лондонская "Санди таймс". Некоторые исследователи стали называть цитокины "веселыми" гормонами, поскольку они связаны со смехом. Поэтому в газете смех поименовали "рецептом долголетия".

ХОЗЯЙКЕ НА ЗАМЕТКУ

## Пасха Царская (Вареная)

2 кг творога, 10 яиц, 400 г сливочного масла, 800 г сметаны, 600-700 г сахара, 100 ядер миндаля, 100 г изюма, ванилин.

Протереть через сито творог и сливочное масло, добавить сметану, тщательно перемешать, поставить посуду на плиту и довести массу до кипения при непрерывном помешивании деревянной лопаточкой, чтобы масса не пригорела. Тотчас снять с огня и по возможности быстрее охладить, также непрерывно помешивая. В остывшую массу добавить сахар, изюм, миндаль, ванилин, все перемешать, положить в пасочницу, застланную чуть влажной марлей, плотно вминая массу, сверху положить блюдце, небольшой груз, поставить в холодильник на сутки.

УЛЫБНИТЕСЬ

— Покажите язык, пожалуйста!
— Но язык у меня не болит.
— Зато с него все начинается...
— Что-о-о? Теперь я понимаю — вы уже имели разговор с моим мужем!

Певец:
— В моем голосе — целое состояние!
Пьяница:
— В моем — тоже!

● ПРОВИНЦИАЛЬНЫЕ ИСТОРИИ

# СКОЛЬКО МОЖНО КРАСТЬ?



Хороший мой друг, прилично разбогатевший коммерсант, предложил вечерком прокатиться. Он, как человек деловой и умный, прогулок без цели терпеть не мог, и вскоре к нам в машину сел Витька — колхозный тракторист, получивший недавно новый трактор и возможность... красть.

Я давно знаком с этим трактористом. Мы — бывшие одноклассники, но когда-то, зло и принципиально поспорив о политике, испытали неприязнь друг к другу и давно не виделись. И я не думал, что мы встретимся в такой пикантной ситуации: Витька, оказывается, подсел в машину, чтобы «сдать» украденных 120 л солярки. Ехать надо было в соседнюю деревню (солярка была спрятана у Витькиной тещи). Разговор завелся о политике.

— Да, я и тогда и теперь поддерживаю А. Лукашенко, — начал Витька, как будто продолжая старый спор со мной, — потому что он выступает за таких простых людей, как я. Я знаю, что вы его не любите. А он порядок навел, колхозы поддерживает. Это такие, как вы, мутят воду. Развал же был полнейший! А кто его остановил? Он, Президент наш, и остановил. Да если бы не он — тут черт знает, что было бы. Поэтому мы, простые люди, и поддерживаем его, а такие как вы да бэнээфовцы, только поглядывают, чтобы с Запада ручку позолотили.

Я взорвался. Все, что накипело, все, что раньше хотелось сказать с расстановкой и внятно, — теперь захотелось выпалить сразу:

— Ты? Ты же вор! Какой ты простой человек? Ты везешь «сдавать» украденную солярку и говоришь, что ты заодно с честным Президентом. Кто из вас врет? Кто? Да ты за нее возьмешь столько, сколько я, простой учитель, зарабатою за неделю, тратя силы и нервы. Ты пошел бы на мое место работы? Никогда — красть нечего!..

Да, спор разгорелся жаркий, правда, до драки дело не дошло. Помнится, Витька-тракторист мне говорил, что я должен целовать А. Лукашенко руки, что он дает нам, учителям, зарплату. Я отвечал, что при В. Кебиче я получал в долларовом исчислении больше — и никто мне не говорил, что В. Кебичу надо целовать руки.

Спор как-то сам собой утих. Мой приятель, сидящий за рулем, лишь ухмылялся, поглядывая то на меня, то через зеркало на сидящего сзади рассерженного тракториста.

У тещи мы перелили, не разговаривая, солярку в канистры, болтавшиеся в багажнике, и машина наша сразу как-то подсела, отяжелела. Пока Коля (так звать моего друга) отсчитывал деньги, Витька бегом понес пустые канистры в тещин сарай — спрятать, чтобы было куда и впредь сливать украденное топливо.

И назад ехали молча. Впрочем, Витьке было не до этого, он, хрустя, пересчитывал деньги. Скоро он вышел, хлопнув дверью, словно желая показать, что презирает нас. Мы поехали дальше.

—В самом деле, — вдруг заговорил молчавший до этого Коля, — послушаешь вас, то здесь я — самый честный человек . Ну купил я у него солярку, но... ведь я ее не крал. Ты думаешь, я тут что-то особо выгадал? Ни черта! Мути всякой добавят, а потом так движок работает, что сам черт не разберет. Уже сколько раз зарекался — заправляться на автозаправочной. Ну, ладно!

— Получается, что я — простой человек, — продолжал он. — Плачу налоги, на таможне оставляю сумасшедшие деньги, милиция трясет, как грушу, Президент в каждом выступлении оскорбляет. А живу открыто, это у Витьки тайники с соляркой, удобрениями, так сказать, двойная бухгалтерия, если вообще не тройная, и зарплаты в разных местах при одной работе. И вспашет себе бесплатно, и людям — за барыши, и посадит, и вытрясет, и привезет, и украдет. И всеми любим.

—А я — вшивая блоха, пиявка, спекулянт. Интересно получается, — заключил мой приятель.

— Так что ж ты молчал, — вскипел я, — надо было все высказать этой... гниде. Эх ты... простой человек...

Мы переглянулись и расхохотались. Мне стало невтерпеж: я решил выяснить, что значит такое любимое в Беларуси словосочетание: простой человек. Я нашел обозначение. Ученые люди считают, что простой человек — это, прежде всего, открытый людям, не двуличный. Человек, который говорит, что думает и делает то, что думает и говорит. Если исходить из этого принципа, то получается, что из тракториста, учителя и предпринимателя, самый простой — предприниматель. Я вот и думаю: может и правда, что на «мерседесах» сегодня катаются простые люди?

XXX

Я не уверен, уважаемые читатели, что вы даже будете спорить! Можно сказать, что Витька — единичный пример, что нельзя из частного случая делать общие выводы... Но... кто скажет, что сегодня в колхозе не воруют?.. Я просто не знаю, кто живет в нынешней деревне на одну зарплату. Словно негласный реестр установил кто-то: председатель, инженерно-технические работники могут пользоваться служебной техникой, ресурсами, кадрами по своему усмотрению. Вилка возможностей, так сказать, между контролем сверху и возможностями на местах позволяет многое. Простые (опять простые!) колхозники могут тоже пользоваться многим, но в меньших количествах. Все — согласно ранга, который вы занимаете в хозяйстве.

Один знакомый шофер, возивший в сентябре школьников на уборку картошки, рассказал мне занимательный в этом плане случай. Дело в том, что один из их трактористов решил украсть сразу 700 кг картофеля. Попался. «Он же не председатель, в конце концов, — возмущался этот знакомый шофер, — чтобы красть в таких объемах». Дальше он поведал о том, что каждый день, привезя учеников на поле, дает им два пустых мешка, которые те расторопно насыпают и спокойненько везет домой.

—Те же 700 килограммов я сделаю за неделю. И ни милиции, ни начальства. Не умеет красть! — заключает свой рассказ мой знакомый.

«Не умеет красть», — говорят сегодня все; и никто не говорит, что «не надо красть». Правда, многие в деревне судачат о том, что нужен порядок, что надоел существующий развал. Надо полагать, что это говорят те, кто крадет больше всех. За какой порядок ратуют? Не за воровской ли? Ибо в колхозах крали со времен их организации...

XXX

Зашел как-то в одно из общежитий нашего небольшого райцентра. Зашел удачно. В комнате за столом — трое парней, один из которых мой друг, разливают по стаканам водку. Оказалось, они только что украли изделие своего родного предприятия, которое, кстати говоря, под боком, да продали, взяв деньгами и водкой. Встретили меня дружелюбно и я, как человек неравнодушный к застолью, долго не упрямился и скоро очутился за столом.

И вот застольные разговоры! О чем они только не бывают? Не помню какими путями, но разговор дошел до личности В. Кудинова, человека далеко не безызвестного в нашем районе и теперь отбывающего суровое наказание.

— Правильно посадили, — угрюмо заметил один из сидящих, кстати незнакомый мне парень, — совести нет! Не знают уже сколько красть, нахалы. Я бы их всех пересадил, паскуд. Семь тонн мяса везти за один рейс! Это уже совсем обнаглели эти бандиты. Мафия кругом, воры!

— Но откуда же вы, мои честные, только что пришли с водкой и деньгами, — съязвил я, уже не имея силы крепиться (лицемеров, тупых или хитрых, — ненавижу) и чувствуя, что этого в гостях говорить не стоило.

Поднялась нешуточная свара. Впрочем, в мужской компании — это не редкость, поэтому, думаю, не стоит передавать все подробности той общежитейской сцены.

Но и теперь вспоминается: «Не знают сколько красть». Не буду даже говорить о том, что В. Кудинов свой товар не крал, как эти «простые» люди, а купил, заплатил деньги. Главное то, что никто и не сомневается, что не красть — невозможно. Интересно то, что само воровство, как таковое, даже не осуждается. Вопрос только в том, совпадает ли ваш воровской рейтинг с вашими же аппетитами. Я вот думаю: может потому и ненавидят всякие «Стараражымныя веснікі» новых людей, предпринимателей, коммерсантов, что те не вписываются в воровской реестр «простых людей»?

*К. ВАСИН.*

● КРЫМІНАЛ

# У РЭСТАРАН... НА НАЧЛЕГ

Ночы веснавыя, як правіла, хмарныя і амаль заўсёды цёмныя, а вуліцы роднага райцэнтра неасветленыя, нібы ў вайну. А для злодзеяў, якія звычайна па начах і не спяць, гэта такая зручная пара. І трэба сказаць, яны выкарыстоўваюць яе спаўна.

Вось і нядаўна, у красавіку, злодзей, выняўшы ў акне шыбу, залез у кафэ "Бульбяная" і ўкраў розных прадуктаў на два мільёны 820 тысяч рублёў. А праз некалькі дзён было ўстаноўлена, што злодзей гэты, грамадзянін М., жыхар вёскі Бараны, працаваў на малым прадпрыемстве "Мэбельшчык".

Нешта падобнае літаральна ў другую ноч пасля першага крадзяжу здарылася ў рэстаране "Шчара". І той знаёмы почырк. Выняўшы шкло ва ўваходных дзвярах (бо вакол тая ж цемра), злодзей забраўся ў рэстаран. Але ён не ўлічыў, што будынак абсталяваны сігналізацыяй, і як толькі на пульце пазаведамаснай аховы атрымалі сігнал трывогі, нарад ахоўнікаў і міліцыі выехаў на месца.

Калі з дапамогай работнікаў рэстарана, якіх тэрмінова выклікалі з ключамі, зайшлі ў памяшканне, то там аказалася ціха, усё ў парадку і на месцы. Бо злодзей, спужаўся хуткім паяўленнем міліцыі, не паспеў нават добра агледзецца і сцяміць, што ж можна ўзяць, а проста схаваўся за музычныя інструменты, што стаяць на невялікай сцэне ў куце вялікай залы на другім паверсе. Адтуль яго і вывалаклі.

— А чаго ж ты сюды забраўся? — запытаўся нехта з ахоўнікаў.

— Я быў п'яным, заблудзіўся, вось і залез сюды пераначаваць, — адказаў няпрошаны начны госць рэстарана.

Што гэта быў злодзей, ні ў кога не выклікала сумнення. Ён быў, так сказаць, пры поўнай "экіпіроўцы": пры ім знаходзіліся манціроўка тыпу цвікадзёра, гаечны ключ, пласкагубцы з ізаляванымі ручкамі...

Асобу незнаёмца ўдалося ўстанавіць. Грамадзянін Ё., жыхар Івацэвічаў, нідзе не працуе. На пытанне, чаму ён не ўладкоўваецца на працу, адказаў так:

— За тыя 800 тысяч рублёў я буду ўкалваць, дык няхай яно згарыць...

І яшчэ адна дэталь. У злодзея з сабой знаходзіўся мяшок, каб туды можна было пакласці крадзенае. Гэты мяшок апазналі работнікі кафе "Бульбяная", бо ён знік у тую ноч, калі адбыўся ў іх крадзёж. Вось і пацягнулася нітачка і да другога злодзея. Аказваецца ў начным нашэсці на "Бульбяную" іх было двое і на рэстаран таксама. Толькі той злодзей М., што з Бараноў, калі заўважыў, што да "Шчары" пад'язджае міліцыя, уцёк, пакінуўшы свайго сябрука ў памяшканні.

Такія падзеі двух начэй, красавіцкіх і сапраўды цёмных. Думаецца, што ацэнку дзеянням нашых наведвальнікаў "Бульбянай" і "Шчары" дасць суд. А пакуль што па фактах крадзяжу ўзбуджана крымінальная справа, ідзе следства.

*А. ГЛУШЭНЯ,*
*начальнік крымінальнага вышуку Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.*

● ПОСТ ДАІ

# СУТЫКНЕННЕ НА ПЕРАЕЗДЗЕ

Гэта адбылося 5 красавіка каля дзесяці гадзін раніцы на чыгуначным пераездзе ля вёскі Міхнавічы. Яўген Гардзейчык, жыхар Івацэвічаў, шафёр ПМК-18, накіраваў свой аўтамабіль маркі МАЗ на чыгуначны пераезд. У гэты час працавала гукавая і светлавая сігналізацыя, якая забараняла рухацца, патрэбна было неадкладна спыніцца.

Але для вадзіцеля Гардзейчыка гэта чамусьці не стала перашкодай, хаця да пераезда імкліва набліжаўся грузавы поезд. І толькі МАЗ уз'ехаў на рэйкі, як атрымаў моцны ўдар лакаматыва ў машыну, якую адкінула на шашу і з вялікім грукатам перавярнула.

Толькі ў перакуленым і пабітым грузавіку шафёр Гардзейчык трохі ачомаўся, відаць, ад перапалоху. Калі яго выцягнулі з кабіны, то аказалася, што ён жывёздароў і хуткая дапамога нават не патрэбна. Праўда, яшчэ не зусім разумеў, што ж урэшце-рэшт адбылося. Зразумеў трохі пазней, калі ўжо зусім працверазіўся. Відаць, як кажуць, у кашулі нарадзіўся. Бо ў такіх сітуацыях рэдка хто застаецца жывым. Яго грузавік значна пашкоджаны, немалыя пашкоджанні атрымаў і лакаматыў таварнага поезда.

Як паказала экспертыза, вадзіцель Я. Гардзейчык кіраваў транспартам у нецвярозым стане. За грубае парушэнне правілаў дарожнага руху, якое прывяло да сутыкнення на чыгуначным пераездзе грузавіка з таварным цягнікам, Я. Гардзейчык пазбаўлены права кіравання аўтамабільным транспартам на 12 месяцаў. Акрамя гэтага, яму неабходна за ўласныя сродкі адрамантаваць грузавік і чыгуначны лакаматыў.

Вось такія вынікі паездкі за рулём у нецвярозым стане. І сумныя, і на рэдкасць удалыя для жыцця Гардзейчыка. Ці сядзе ён яшчэ калі-небудзь за руль аўтамабіля, прыняўшы зноў такую ж дозу спіртнога? Адказаць цяжка. Але ж можна меркаваць адно: калі такое раптам паўторыцца, то ўжо трагедыі не мінаваць. Хацелася б, каб ні першае, ні другое не паўтарылася.

*А. АРЦЁМЧЫК,*
*камандзір узвода дарожна-патрульнай службы дзяржаўтаінспекцыі Івацэвіцкага райаддзела міліцыі, капітан міліцыі.*

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 21 красавіка ў 9.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.
НАШ АДРАС: рэдакцыя "Газеты для вас". вул. Леніна, 62, 225250, г. Івацэвічы.
Тэлефон: 8 (245) 2-12-29.



Тыраж 1600.
Заказ 1235.